НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА ШУМІЛІНШЧЫНЫ

# СЬВІТАНАК

*Беларусь, твой народ дачакаецца Залацістага, яснага дня! М. Багдановіч.*

№12 (176)ЖНІВЕНЬ 2014 ГОД

У ЦЭНТРЫ ЎВАГІ

## ЗАТРЫМАНЫ ПРАКУРОР РАЁНА І ЯГО НАМЕСНІК

**У Шуміліне разгарэўся скандал. За кратамі апынуўся пракурор раёна Яўген Гуляеў і яго намеснік Дзмітрый Храловіч. Кайданкі на іх надзелі, калі пракурорскія работнікі атрымлівалі чарговы транш хабару. Як кажуць у народзе, узялі з доказамі злачынства.**

Паводле супрацоўніцы пракуратуры Шумілінскага раёна, пракурора няма на працы ўжо некалькі дзён. Аднак яна не чула, каб затрыманне праходзіла на працы.

Як паведаміла прэс-служба КДБ, аперацыя па затрыманні хабарнікаў была праведзена ў ходзе «комплексу мерапрыемстваў па спыненні злачынстваў карупцыйнай накіраванасці». Па матэрыялах следства, за ўзнагароджанне яны складалі для камерцыйных структур іскавыя заявы і накіроўвалі іх у Абласны эканамічны суд. Свае паслугі ацанілі ў 32 мільёны рублёў. Пры атрыманні чарговай часткі незаконнага грашовага ўзнагароджання службовыя асобы былі затрыманыя супрацоўнікамі камітэта. Падазроныя ўзяты пад варту. Цяпер праваахоўнікі праводзяць прадугледжаныя ў падобных выпадках аператыўныя і вышуковыя мерапрыемствы.

У дачыненні да Гуляева і Храловіча старшыня КДБ распачаў крымінальную справу ч. 1 арт. 14 і г. 3 арт. 430 «Атрыманне хабару службовымі асобамі, якія займаюць адказнае становішча, па папярэдняй змове». І пакаранне па гэтым артыкуле досыць суровае: ад 5 да 15 гадоў пазбаўлення волі з канфіскацыяй маёмасці.

Гуляеву 47 гадоў, у органах працуе даўно. У 2008 годзе ўзначаліў пракуратуру Шумілінскага раёна, а да гэтага працаваў старэйшым следчым па найважнейшых справах пракуратуры Віцебскай вобласці. Зараз яго абавязкі часова выконвае іншы чалавек. Дзмітрый Храловіч да арышту афіцыйна знаходзіўся ў адпачынку да 28 жніўня.

Дарэчы, гэта не першы выпадак злачынства на Шумілінщчыне, які ўчынены службовымі асобамі праваахоўных органаў. Так, у 2009 годзе была заведзена крымінальная справа на аднаго судовага выканаўцу, які прысвойваў грошы даўжнікоў. Служыцель Феміды за два года здзейсніў крадзеж бюджэтных грашовых сродкаў на агульную суму Br190 млн.

**Алесь Шумскі**

НАВІНЫ КУЛЬТУРЫ

## ВІЗІТ МІНІСТРА

**На Шумілінщчыну завітаў высокі госць – міністр культуры Рэспублікі Беларусь Барыс Святлоў. У будынку Дома Саветаў адбылася сустрэча з кіраўнікамі мясцовай грамадскасці.**

Падчас знаходжання ў Шумілінскім раёне Барыс Святлоў наведаў дзіцячы аздараўленчы цэнтр "Дружба", Обальскі музей камсамольскага падполля, а таксама Лаўжанскі сельскі цэнтр культуры і вольнага часу. У ходзе паездкі ў міністра склалася прыемнае ўражанне аб накірунках дзейнасці творчых арганізацый нашага раёна. Апроч таго, высокі госць меў магчымасць пазнаёміцца са здабыткамі мастацкай самадзейнасці народных калектываў. Прынамсі, Барыс Уладзіміравіч ухваліў шумілінцаў за іх энтузіазм, на якім у асноўным і трымаецца культурнае асяроддзе мястэчка.

Пры размове с журналістамі міністр шчыра прызнаўся, што быў прыемна здзіўлены ад сустрэчы з кіраўнікамі грамадскіх арганізацый інвалідаў і ветэранаў Шумілінщчыны. Менавіта яны і расказалі сталічнаму чыноўніку пра новыя ідэі, ініцыятывы і праекты, якія ажыццяўляюцца ў рэгіёне.

На асабістым прыёме грамадзян, які ладзіўся ў будынку Доме Саветаў, ад кіраўніка раённай ветэранскай суполкі паступіла незвычайная прапанова. У прыватнасці, гаворка ішла аб правядзенні Дня ветэранаў на "Славянскім базары". Бо наступны год асаблівы – гэта год 70-годдзя Перамогі, таму цалкам абгрунтавана правесці ў яго рамках Дзень ветэранаў. Тым болей, што ў нас ужо ёсць Дзень моладзі, дык хіба не быць і Дзень пераможцаў-ветэранаў?

У сваю чаргу Барыс Святлоў абяцаў вынесці даную прапанову на абмеркаванне рэспубліканскага аргкамітэта, які будзе рыхтаваць наступны міжнародны форум "Славянскі базар" у Віцебску. Да таго ж няблага было б і стварэнне гімна ветэранаў. Паводле міністра, гэтая ідэя таксама мае права на вырашэнне, тым болей, што адзін варыянт тэксту ўжо існуе.

У ходзе наведвання мадэрнізаванага будынка Шумілінскай школы мастацтваў міністр культуры Барыс Святлоў падарыў установе цымбалы. Прычым ён недвухсэнсоўна адзначыў, што гэты інструмент быў дастаўлены з кансерваторыі. А гэты дабрачынны жэст – нішто іншае, як намёк на тое, што юныя ўдзельнікі цымбальнага калектыву і вучні школы мастацтваў павінны і надалей працягнуць музычную адукацыю ў гэтай установе.

**Алесь Прыбярэжны**



ЖЫВІ ЯК ГАСПАДАР

## ШТО РАБІЦЬ, КАЛІ Ў КРАНЕ СУХА?

**Насельнікі мікрараёна прыватных дамоў па вуліцы Полацкай у горпасёлку Шуміліна наракаюць на пастаянныя перабоі з вадой.**

І сапраўды, звычайна ўлады маюць моду, як толькі пачынаецца лета - дык камунальшчыкамі пачынаецца адключэнне гарачай вады. А ў кватэрах чацвёртых-пятых паверхаў жылых дамоў узнікаюць перабоі і з халоднай. У летні сезон камунальныя службы робяць рамонтна-прафілактычныя работы водаправодных сетак, мяняюць трубы і г. д.

Аднак праблема з пітной вадой у дамах па вуліцы Полацкай застарэлая, як кажуць, з барадой. Два гады мінула, як цягнецца валакіта па гэтаму неадкладнаму, жыццёва неабходнаму пытанну. З аднаго боку – калектыўныя скаргі жыхароў у Шумілінскі камунгас і райвыканкам, з другога – цэлы стос лістоў-адказаў на гэтыя скаргі. Разгледзеўшы калектыўныя звароты грамадзян па пытанні водазабеспячэння, Шумілінская УП ЖКГ тлумачыць наступнае, што "забеспячэнне вадой па вуліцы Полацкай аднаўлена", што "цеча ў калодзежы ліквідавана, падача вады аднаўлена", што "УП ЖКГ выканала работы па замене помпы, водазабеспячэнне аднаўлена". Работнікі каумнгасу яшчэ і прыносяць свае прабачэнні за прынесеныя жыхарам нязручнасці.

Але воз і цяпер там. Як расказалі самі жыхары дамоў па вуліцы Полацкай, зараз адсутнасць вады дома – сапраўдная катастрофа. Вада цячэ з кранаў тоненькім струменьчыкам, ці зусім знікае. Ні нармальна ежу прыгатаваць, ні памыцца. Трэба ноччу не спаць, набіраць ваду ў слоікі і вёдры.

Варта дадаць, што канкрэтныя прычыны перабояў з вадой дагэтуль не высветлены. Адны сведкі ківаюць на спёку, маўляў, калі трэба было паліваць агароды у тым мікраёне – тады нібыта і быў павышаны расход вады. Бо многія жыхары самавольна падключаліся да сістэмы. Існуе яшчэ адна версія: вада да гэтых дамоў паступае ад сістэмы прадпрыемства "Вежа", а там разгар сезона, таму і расход вады вялікі – часта мыюць бутэлькі і яблыкі.

Задзейнічалі дадатковую помпу, але ўсё роўна вады болей паступаць не стала.

Спецыялісты мяркуюць, што магчыма замяніць водапровад з дыяметрам трубы 50 мм на большую трубу – 100 мм. Толькі паводле падлікаў начальніка жыллёва-камунальнай гаспадаркі Івана Штуро, на пракладку новага водапровода даўжынёй 2 км патрэбна не менш, як 4 мільярды рублёў.

З усяго бачна, што праблема з пітной вадой па вуліцы Полацкай і іншых да яе прылягаючых паўстала рубам – яно ніяк не часовае. Аднак на такія масштабныя работы неабходна спачатку знайсці грошы, якіх вядома ж бракуе ў раённым бюджэце.

**Уладзімір Амбросаў**

АДУКАЦЫЯ

## ВЫБРАЛІ СВОЙ ШЛЯХ

**Сярод выпускнікоў шумілінскіх школ найбольшым попытам карыстаецца Віцебскі дзяржаўны ўніверсітэт імя П. М. Машэрава. Сёлета туды паступіла 14 хлопцаў і дзяўчат з нашага раёна.**

Увогуле, 29 маладых людзей Шумілінщчыны абралі сабе вышэйшыя навучальныя ўстановы Віцебска. Зараз можна падводзіць вынікі паступлення. Паводле аддзела адукацыі, 53 маладым людзям са 118 выпускнікоў сёлета пашанцавала стаць студэнтамі. Усе яны залічаныя на бюджэтныя формы навучання.

Прычым самы лепшы паказчык застаецца за раённай гімназіяй. Як высветлілася, тутама ль усе выпускнікі апраўдалі надзеі і не падвялі сваіх настаўнікаў. З 14 выпускнікоў у вышэйшыя навучальныя ўстановы Беларусі паступіла 13 чалавек, з іх шасцёра – трапілі ў сталічныя ўніверсітэты. Залатая медалістка Наталля Пятрова, якая з'яўлялася асаблівым гонарам гімназіі, паступіла ў Полацкі дзяржаўны ўніверсітэт на інжынерна-тэхналагічны факультэт. У будучым яна будзе займацца праектаваннем і эксплуатацыяй газанафтаправодаў. Праўда, летась паказчык паступленняў быў крыху вышэйшы за сёлетні ( у мінулым годзе было 47,7 %, а ў гэтым ужо 44,9% ).

Самы высокі з раённых паказчыкаў – у Мікіцкінскай сярэдняй школе. Тут пяцёра з сямі выпускнікоў будуць вучыцца ў ВНУ краіны. А вось у дзвюх школах – Амбросавіцкай СШ, дзе было 6 выпускнікоў і Мішневіцкай СШ, у якой налічвалася 5 выпускнікоў у гэтым годзе у ВНУ не паступіў ніхто.

Па гарадам краіны сітуацыя выглядае наступным чынам: 29 маладзёнаў з раёна будуць вучыцца ў бліжэйшым да Шуміліна абласным цэнтры – Віцебску. 14 з іх залічаны ў Віцебскі дзяржаўны ўніверсітэт імя П. М. Машэрава. У Мінск паедуць 10 выпускнікоў, а 8 выпускнікоў абралі Полацкі дзяржаўны ўніверсітэт. Некаторыя паступілі ў ВНУ Гродна, Магілёва, Горак.

Сярод папулярных спецыяльнасцяў, якія выбралі выпускнікі, – правазнаўства, бухгалтарскі ўлік і аудыт, педагагічныя, медычныя, эканамічныя і інжынерна-тэхналагічныя спецыяльнасці. Варта дадаць, што многія выпускнікі з раёна атрымоўваюць дыпломы педагогаў, а настаўнікаў усё роўна не хапае. Пасля размеркавання на працу паводле заявак выпускнікі педагагічных спецыяльнасцей некуды знікаюць. Тэндэнцыя, аднак…

**Ян Вайтовіч**

УВАГА!

# ШУМІЛІНЦАМ ЗАБАРОНЕНА ХАДЗІЦЬ У ЛЕС

**У сувязі з павелічэннем выпадкаў лясных і тарфяных пажараў уведзена часовая забарона на наведванне лясоў у пяці рэгіёнах Віцебскай вобласці, у тым ліку ў Шумілінскім раёне.**

Анамальна высокая тэмпература паветра і адсутнасць ападкаў у Беларусі прывялі да таго, што ў краіне пачасціліся выпадкі лясных і тарфяных пажараў.

Менавіта таму на сённяшні дзень уведзены часовая забарона на наведванне лясоў. Так, у Віцебскай вобласці абмежаванне дзейнічае ў Лепельскім, Пастаўскім, Талачынскім, Шумілінскім і Шаркоўшчынскім раёнах.

Верталёт Мі-26 скідае ваду на лясной пажару падчас сумесных тактыка-спецыяльных вучэнняў МНС Беларусі і Расіі ў ліпені 2012 года.

У перыяд забароны на аўтатранспарце можна праязджаць толькі па дарогах, якія вядуць да населеных пунктаў, а таксама да ўладкаваным месцаў адпачынку. Распальванне вогнішчаў у лясах і на тарфяніках на перыяд забароны ці абмежаванні наведвання лясоў забаронена.

Цяпер штодзённа праводзіцца патруляванне ў лясах, дзяжурства на пажарна-хімічных станцыях і назіральных вышках, тлумачальная праца з насельніцтвам. Экалагічныя інспекцыі таксама праводзяць спецыяльныя рэйды

Спецыяльныя рэйды праводзяць таксама экалагічныя інспекцыі, падраздзялення Дзяржаўнай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету, МУС.

У выпадку выяўлення парушэнняў Правілаў пажарнай бяспекі ў лясах вінаватыя грамадзяне будуць прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці ў адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам.

З пачатку пажаранебяспечнага сезона па дадзеных на 31 ліпеня ў Віцебскай вобласці адбылося 9 пажараў на плошчы 1,08 га, паведамляе прэс-служба Мінлясгаса.

**Сяржук Горкі**
**паводле зводак МНС**

ТРЫМАЙСЯ СВАЙГО!

# СШЫТКІ З НАЦЫЯНАЛЬНЫМ КАЛАРЫТАМ

**Віцебчук Уладзімір Рамановіч распрацаваў новы дызайнерскі брэнд для дзяцей і школьнікаў.**

Сшыткі з беларускім арнаментам, магніты з алфавітам на лядоўню, нататнікі з нацыянальным каларытам і шмат чаго іншага робіцца сіламі адной сям'і.

На такую творчасць Уладзіміра натхнілі двое малых сыноў. Нягледзячы на тое, што жонка руская, дзяцей у сям'і ад самага пачатку імкнуліся выхоўваць па-беларуску.

– Мы сутыкнуліся з тым, што нам катастрафічна не хапала матэрыялаў для таго, каб дзеткі вучыліся размаўляць па-беларуску. Калі нешта і сустракаецца на беларускай мове, то хіба для школьнікаў, а не малых дзяцей. Ды і якасць гэтай прадукцыі, мягка кажучы, так сабе.

Так першай спробай стаў звычайны алфавіт на лядоўню для малых дзетак.

– Пакуль вы занятыя прыгатаваннем ежы ці бавіце час на кухні, дзеці ў форме гульні змогуць складаць словы і вывучаць мову, – расказвае пра магніты Уладзімір.

–Мы вырашылі рабіць менавіта сшыткі з арнаментам, алфавітам на адваротным баку ды прымаўкамі. Сшыткі могуць быць нават з «Пагоняй», абы ў дзетак не было праблем у школе. Далейшыя планы – запусціць серыю нататнікаў і альбомаў для малявання. Усё, вядома ж, у прыгожым беларускім аздабленні.

Прадукцыю ў хуткім часе можна будзе купіць у інтэрнэт-краме, якая знаходзіцца ў стадыі распрацоўкі. А замовы прымаюцца ўжо зараз на інтэрнэт-скрыню vladi_r@tut.by і праз суполку «Укантакце» «Магніты на лядоўню, сшыткі — маладым беларусам». Дастаўка ажыццяўляецца па ўсёй Беларусі. А калі трэба, то і за яе межы.

**Вольга Гарапучык**
**"Наша Ніва"**

ЗДАРЭННЕ

# ЗНІКЛА ПЕНСІЯНЕРКА

**Нягледзячы на пошукі выратавальнікаў, дагэтуль не знойдзена 78-гадовая жанчына з Віцебска, якая месяц таму прыехала ў Шумілінскі раён, выправілася па ягады і заблукала ў Обальскім балоце.**

Здарэнне адбылося ў лясным масіве 24 ліпеня каля вёскі Расалай Обальскага сельсавета. Пенсіянерка з Віцебска раніцай пайшла па ягады і пад вечар а пятай гадзіне па мабільным тэлефоне звярнулася ў міліцыю па дапамогу. На пошукі тэрмінова выехалі работнікі аддзела надзвычайных сітуацый.

Выратавальная аперацыя тады працягвалася ўсю ноч. І гора-ягадніца нібыта ўжо была знойдзена: на наступны дзень у сем гадзін раніцы яна сама паведаміла па мабільнай сувязі, што бачыць машыны выратавальнікаў з лесу. Але па нейкай прычыне выходзіць з лесу чамусьці наадрэз адмовілася, матывуючы свой учынак тым фактам, што яшчэ не назбірала ягад (!?).

Аднак затым пажылая жанчына позна вечарам таксама дадому не вярнулася. Не здолела заблукалая ягадніца выйсці да людскога жытла і на наступны дзень. Занепакоіліся родзічы, узнялі трывогу па усіх службах. На гэты раз жыхарку Віцебска шукалі па ўсім лесе і балоце не толькі выратавальнікі з работнікамі міліцыя , але і леснікі, нават былі выкліканы салдаты – усяго ў пошуках прымалі ўдзел болей за сто чалавек. На жаль, пошукі скончыліся беспаспяхова, а бабуля прапала бясследна.

Варта нагадаць, што ў гэтым лесе за мястэчкам Обаль тры гады таму ўжо таксама прапала жанчына. Было знойдзена толькі вядро з ягадамі і куртка. Па-ранейшаму многія жыхары, асабліва пажылыя, неадаацэньваюць тую небяспеку, якая чакае іх у лесе. Каб дзеля вядра ягад не развітацца х жыццём, родзічам трэба памятаць, што лепш пажылых людзей адных у лес не адпускаць.

Увогуле, збіраючыся па грыбы і ягады, запрашайце далучыцца да вас іншых людзей (блізкіх, сяброў, суседзяў). Апраніце яркае адзенне, прыхапіце якія-небудзь бутэрброды, шакалад, ваду. На ўсялякі выпадак вазьміце свісток, мабільны тэлефон (не забудзьцеся праверыць яго баланс і зарадку батарэі). Калі адчуваеце, што згубіліся, стойце на адным месцы, прыслухоўвайцеся да гукаў. Калі хтосьці з блізкіх не вярнуўся з лесу, адразу паведамляйце выратавальнікам ці ў міліцыю.

**Ян Вайтовіч**

ЗДАРЭННІ, КРЫМІНАЛ

# ЗАТРЫМАНЫ ПАДАЗРАВАНЫЯ

**Расследуецца крымінальная справа ў дачыненні да двух раней неаднаразова судзімых жыхароў Шумілінскага раёна, якія ўчынілі дзёрзкія разбойныя напады на мясцовых жыхароў Бешанковіцкага і Віцебскага раёнаў.**

Уначы 22 ліпеня ў праваахоўныя органы паступіла паведамленне пра тое, што ў адзін з дамоў вёскі Берастні Бешанковіцкага раёна Віцебскай вобласці ўварваліся двое невядомых у масках з прарэзамі для вачэй і рота. Тыя, хто нападаў, выкарыстоўваючы драўляныя прадметы, накшталт бейсбольных біт, збілі мужа і жонку, якія пражываюць у доме і звязалі іх. Пасля чаго злачынцы выкралі 1 млн. беларускіх рублёў, ювелірныя ўпрыгажэнні і схаваліся. У выніку нападу пацярпелая доўгі час знаходзілася на лячэнні, яе муж памёр у установе аховы здароўя ад атрыманых траўмаў.

У сувязі з тым, што злачынства выклікала вялікі грамадскі рэзананс, ход яго раскрыцця быў пастаўлены на асабісты кантроль начальніка УУС Віцебскага аблвыканкама. Для аказання практычнай дапамогі ў Бешанковіцкі РАУС неадкладна былі накіраваныя найбольш вопытныя супрацоўнікі ўпраўлення крымінальнага вышуку УУС і ГУУР МУС.

З мэтай высвятлення асобы злачынцаў, супрацоўнікамі міліцыі праведзены комплекс аператыўна-вышуковых мерапрыемстваў па адпрацоўцы вёскі Берастні і бліжэйшых вёсак, устанаўленню магчымых сведак і відавочцаў, вышуку выкрадзенага і рэчыўных доказаў. У выніку праведзеных мерапрыемстваў былі ўстаноўлены грамадзяне, якія бачылі ў дзень здзяйснення злачынства двух падазроных мужчын, аднак іх асобы ім былі не вядомыя.

Праз тыдзень, ноччу 30 ліпеня, аналагічнае злачынства было зарэгістравана ў вёсцы Подлазнікі Віцебскага раёна. Двое невядомых у масках з прарэзамі для вачэй і рота, з драўлянымі палкамі ў руках, выставіўшы аконнае шкло веранды, пранiклі ў дом, дзе з ужываннем гвалту небяспечнага для жыцця, заваладалі маёмасцю, якая належаць пражаючай у доме сямейнай пары.

Нападнікі выкралі грошы ў суме не менш за 300 000 беларускіх рублёў, залатыя ўпрыгажэнні і мабільны тэлефон. Пражываючаму ў доме мужчыну былі нанесены цялесныя пашкоджанні рознай ступені цяжкасці, ад якіх апошні праз тыдзень памёр.

Неадкладна пры паступленні паведамлення аб дзёрзкім злачынстве на месца здарэння выбыла следча-аператыўная група. Для раскрыцця злачынстваў, якія адносяцца да катэгорыі асабліва цяжкіх, былі задзейнічаны ўсе неабходныя сілы: найбольш вопытныя супрацоўнікі крымінальнага вышуку Віцебскага, Бешанковіцкага РАУС і УУС Вітаблвыканкаму.

Праведзены комплекс аператыўна-вышуковых мерапрыемстваў, пісьменная праца супрацоўнікаў міліцыі пры адпрацоўцы мясцовасці па наяўных прыкметах злачынцаў, устанаўленнюмагчымыхшляхоў іх адыходу, выкарыстанне службова-вышуковага сабакі дазволілі ўсталяваць вінаватых асоб па гарачых слядах.

Супрацоўнікам крымінальнага вышуку і ўчастковым інспектарам міліцыі Віцебскага РАУС на станцыі Лётцы былі затрыманыя двое падобных па прыкметах мужчын, як у наступным аказалася, раней судзімых 1973 і 1976 гадоў нараджэння. У момант затрымання ў асабістых рэчах падазраваных было выяўлена выкрадзеная маёмасць.

Ацэнка канфіскаваных з месца здарэння рэчыўных доказаў, аналіз сітуацыі, аператыўнай абстаноўкі, відавочная падабенства ў характары злачынных дзеянняў, выкарыстанне аднолькавых прылад злачынства дазволілі следчым і аператыўным супрацоўнікам высунуць версію пра тое, што абодва разбойныя напады здзейснены аднымі і тымі ж асобамі. Дзве крымінальныя справы для далейшага расследавання з раённых падраздзяленняў перададзеныя ў абласное ўпраўленне СК.

Сукупнасць сабраных па крымінальнай справе доказаў следства палічыла дастатковай для прад'яўлення абвінавачвання абодвум падазраваным. Абвінавачванне прад'яўлена па артыкуле 207 Крымінальнага кодэкса. У дачыненні да абвінавачаных абраная мера стрымання ў выглядзе заключэння пад варту.

У цяперашні час супрацоўнікамі крымінальнага вышуку праводзяцца аператыўна-вышуковыя мерапрыемствы ў рамках аператыўнага суправаджэння крымінальнай справы па зборы і дакументаванню доказнай базы, а таксама праверцы фігурантаў на дачыненне да аналагічных нераскрытых злачынстваў.

**Паводле uvd.vitebsk.gov**

## АБ'ЯВА

*• Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Світанак» паведаміце рэдакцыі аб гэтым–зрабіцебясплатную падпіску. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэлефануйце.*

*• Калі прачыталі "Світанак", то калі ласка, перадайце знаёмым.*

*• Наша газета стала размяшчаецца на партале http://kamunikat.org, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: http://kamunikat.org/svitanak.html для далейшага выкарыстання яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.*

ГАСПАДАР СЛОВА

# КАК ЛУКАШЕНКО КРЕДИТОВ НЕ БРАЛ

**В рамках проекта «20 лет правления Александра Лукашенко» мы решили вспомнить об одном из самых главных обещаний руководителя Беларуси народу.**

Сегодня это кажется уже сюжетом из какого-то фантастического фильма, а ведь в 2001 году на этом строилась предвыборная кампания Александра Лукашенко, и именно это подавалось как одно из самых больших достижений правящей власти. Так что же такого обещал Александр Григорьевич белорусам в те далекие времена? А обещал он — только не падайте со стула — «и впредь кредитов не брать».

Выступая на Втором всебелорусском собрании, Лукашенко хвастался: «Мы не разбазарили народное достояние, не нахватались иностранных займов, не влезли в долги, отдавать которые пришлось бы детям и внукам!»

Такая забота «о детях и внуках» действительно казалась похвальной. Правда, глава государства тогда был не достаточно откровенен. Долг у Беларуси на тот момент все-таки имелся, хоть по сегодняшним меркам и не такой большой — 2 миллиарда 92 миллиона долларов, или 209 USD на каждого белоруса. Для сравнения: в 1997 году отдельно взятый гражданин должен был 197 долларов.

Шли годы, а риторика Лукашенко оставалась все той же. А вот долг, к сожалению, нет. В 2007 году наша страна набрала уже кредитов на 6 млрд.844 млн. долларов. При этом руководитель Беларуси все еще продолжал вещать о жизни без долгов.

— Неоспоримым преимуществом нашей модели экономического развития является то, что мы не влезли в долги. Кредит – это капкан, в который попадем даже не мы, а наши дети и внуки. Ни в коем случае нельзя допустить, чтобы кредит превратился в средство давления на нашу страну, — отмечал в ежегодном послании к Национальному собранию и народу Александр Лукашенко в 2007 году.

Однако тот факт, что наша страна все прочнее садится на кредитную иглу, с каждым годом наращивая темпы заимствований, скрывать становилось уже бессмысленно. СМИ наперебой вещали о российских, китайских, МВФовских и еще бог знает каких кредитах, призванных спасти нашу экономику.

Теперь уже и Лукашенко, не стесняясь, описывал все радости жизни в долг, заявляя что, взяв кредиты, наша страна получила «запас прочности». И ни слова о жизни без долгов как о неоспоримом преимуществе нашей экономической модели и светлом будущем наших детей и внуков.

И ведь что удивительно: социологи обнаружили странную закономерность, согласно которой рейтинг главы государства даже рос после очередного «развивающее-модернизационно-стабилизационного» кредита.

Старался и Александр Григорьевич, не уставая пополнять «запасы прочности». К очередным президентским выборам 2010 года Беларусь успела задолжать в общей сложности более 23 млрд. долларов (из них 9,6 млрд. — госдолг). То есть менее чем за 10 лет долг Беларуси вырос более чем в 10 раз! К тому времени каждый белорус, включая грудных младенцев, должен был, ни много ни мало — почти 2,5 тысячи USD.

Но и это был далеко не предел. В январе 2013 года внешний госдолг нашей страны составлял уже 12 миллиардов долларов. А на 1 июля 2014-го он вырос, по данным Минфина, до 13,4 млрд долларов!

Сегодня сообщения о договоренностях по очередному кредиту выглядят такими же рядовыми новостями, как прогноз погоды. Мало удивляет и то, что миллиарды очередного транша пролетают мимо «золотовалютных» хранилищ страны, уходя на погашение долгов — белорусская экономика уже давно работает по принципу набрать новых кредитов, чтобы оплатить старые.

Грядет 2015 год и, честно говоря, даже интересно, что теперь о жизни в долг будет вещать Александр Лукашенко в своей предвыборной кампании. Хотя по сути не важно, что он скажет, учитывая цену этих обещаний.

**Анастасия Зеленкова**
**"Салідарнасць"**

СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА

# КОЛЬКІ НІ ДАВАЙ ГРОШАЙ, УСЁ БЕСКАРЫСНА?..

**Лукашэнка, які 20 гадоў выносіў на руках свае любімыя калгасы, зноў прыстрашыў сялян: нядобра і далей дзяржаве цягнуць на плячах сельгасвытворчасць - сяляне павінны самі зарабляць.**

Падобнае прызнанне кіраўніка дзяржавы выглядае даволі смелым, улічваючы, якія сродкі ўкладваюцца ў сельскую гаспадарку вось ужо колькі гадоў.

Зрэшты, «апошняе кітайскае папярэджанне» ў яго выкананні беларусы чулі і год, і сем гадоў таму ...

Прапануем абранае.

**15 жніўня 2014**

- Далейшы прыярытэт дзяржаўнай дапамогі аграрнай галіны будзе засяроджаны на кропкавым фінансаванні перспектыўных праектаў, - паведамілі interfax.by ў прэс-службе кіраўніка дзяржавы па выніках паездкі кіраўніка дзяржавы па Гродзенскай вобласці. - Наладжваць на працу ў

*працяг на стар. 4*

# КАРЫКАТУРА ПРА СПАД У РАСІІ – ВЫСНОВЫ МВФ



*Беларусь і Літва сярод усіх знешнегандлёвых партнёраў Расіі ў найбольшай ступені адчуюць на сабе негатыўны ўплыў заходніх санкцый і агульнага запавольвання эканамічнага росту ў Расіі, цытуе Інтэрфакс выснову экспертаў Міжнароднага валютнага фонду (МВФ).*

***www.svaboda.org***

ГУЧНАЯ СПРАВА

# АБ СІТУАЦЫІ ВАКОЛ ГАННЫ ШАРЭЙКА

**"Радыё Свабода" паведаміла, што на месца Ганны Шарэйкі выконваючым абавязкі прызначаны Віктар Міраш, старшыня Гарадоцкага райсавету.**

Пазбаўленьне сэнатарскай недатыкальнасьці і арышт былой дырэктаркі Віцебскай бройлернай птушкафабрыкі Ганны Шарэйкі, а таксама чатырох прадстаўнікоў адміністрацыі прадпрыемства і двух супрацоўнікаў расейскай кампаніі застаюцца ў цэнтры ўвагі жыхароў Віцебску. Прычым шмат хто не асуджае Шарэйку, а толькі наракае, што мала інфармацыі пра ягоныя дзеі, пра тыя карупцыйныя ўчынкі, якія ёй інкрымінуюцца.

У свае 55 год Ганна Шарэйка ня мае ні сям'і, ні дзяцей — што адпавядае ўяўленьню пра жанчыну-кіраўніка, якая «ахвяравала ўсім у імя кар'еры». Таму распытацца пра яе лёс няма ў каго.

На афіцыйным сайце птушкафабрыкі Ганна Шарэйка дагэтуль значыцца генэральным дырэктарам. Але ў прыёмнай патлумачылі, што на дадзены момант абавязкі кіраўніка выконвае Віктар Міраш, старшыня Гарадоцкага райсавету.

Размаўляць пра сваю папярэдніцу ён адмаўляецца. А што да ягосамога, то да абраньня ў райсавет ён быў дырэктарам Гарадоцкай птушкафабрыкі — вядомага ў раёне стратнага прадпрыемства.

У нумары газэты «Гарадоцкі веснік» ад 29 сакавіка, дзе паведамлялася пра вынікі выбараў, была апублікаваная справаздача ААТ «Птушкафабрыка Гарадок». Згодна зь ёй, птушкафабрыка мела больш за 4 мільярды рублёў стратаў ад рэалізацыі прадукцыі, тавараў ды паслугаў, а агульная сума стратаў дасягнула амаль 18 мільярдаў рублёў.

Паводле Генэральнай пракуратуры Беларусі, Ганна Шарэйка падазраецца ў тым, што бройлерная птушкафабрыка пад яе кіраўніцтвам страціла 4 мільярды рублёў праз незаконныя зьдзелкі, зьвязаныя з пастаўкамі камбікармоў.

Згодна з вэрсіяй Сьледчага камітэту і Генэральнай пракуратуры, у арыштаванай быў «сябар» — «уласьнік замежнай кампаніі», адносна якой Ганна Шарэйка нібыта «давала незаконныя ўказаньні, каб прызнаць яго пераможцам конкурсу» ў тэндэры на набыцьцё камбікармоў.

Беларускія вытворцы кармоў для птушкі таксама зьвярталіся да яе, ды атрымалі адмову. Ня выканаўшы загаду «купляй беларускае», Ганна Шарэйка дапусьціла яшчэ адзін «пралік»: прадпрыемства мела невялікія прыбыткі, бо амаль усе зароблены сродкі ішлі на пашырэньне вытворчасьці.

Усё гэта стала нагодай для праверкі прадпрыемства, якая скончылася арыштамі. У ліпені затрымалі чатырох працаўнікоў, прозьвішчы якіх не агучваюцца. Таксама па беларускім тэлебачаньні было заяўлена, што затрымалі і дваіх расейскіх камэрсантаў, якія займаліся пастаўкамі камбікармоў. Паводле некаторых зьвестак, гэта супрацоўнікі ААТ «Русскам-Р», якое выступае прадстаўніком ААТ «Рыскі камбікормавы завод».

Агучана была і сума матэрыяльнай шкоды, нанесенай прадпрыемству, — каля 4 мільярдаў беларускіх рублёў. Аднак далейшыя падрабязнасьці з афіцыйнага паведамленьня Генпракуратуры выклікалі ў землякоў Ганны Шарэйкі вялікія сумневы ў справядлівасьці абвінавачаньня. Прыкладам, тое, што Шарэйка мела «катэдж плошчай 240 квадратных мэтраў»…

Дарэчы, катэдж Ганны Шарэйкі па тэлебачаньні не паказалі — мабыць, гэта ня самы пераканаўчы аргумэнт. І дзе ён — ніхто ня ведае. Прынамсі, не ў так званым «царскім сяле» ў прыгарадным пасёлку Тулава, дзе пасяліліся рознага кшталту начальнікі ды заможныя людзі.

Мясцовыя жыхары кажуць, што ў вёсцы Кузьміно Гарадоцкага раёну ў Ганны Шарэйкі ёсьць лецішча. І многія жыхары райцэнтру адзначаюць, што па дарозе туды яна заўжды закупляла прадукты ў фірмовай краме свайго ж прадпрыемства. Пры гэтым стаяла ў чарзе, як усе, падкрэсьлівае Леанід Аўтухоў, актывіст партыі БНФ з Гарадка:

«Яна зайшла, паўсьміхалася, запыталася, як справы. Была ў спартовым гарнітуры, вельмі сьціпла. Гэта потым мне дзяўчаты сказалі: „Гэта ж наша дырэктарка!" Чыноўнік такога рангу — і так сьціпла сябе паводзіць, купляе ўсё ўласнай вытворчасьці... А што ў яе там мільярды знайшлі, дык, можа, і наркотыкі цяпер знойдуць. А як яна ня замужам, дык рознай брыдотай абальюць... У гэта ў нас ня вераць. Катэдж у 240 квадратных мэтраў — гэта драбяза ў параўнаньні з нашымі іншымі чыноўнікамі! Я думаю, адбываецца рэйдэрскі захоп! Бо прадпрыемства моцнае, прадпрыемства працуе, яна — чалавек на сваім месцы, так што — рэйдэрскі захоп, і ўсё тут».

Абвінавачаньні ў тым, што Ганна Шарэйка набывала «дарагую бытавую і электронную тэхніку» ды «забясьпечыла сабе матэрыяльны дабрабыт на будучыню», таксама выглядаюць несур'ёзна, пакуль не названыя нейкія канкрэтныя лічбы. І пакуль ніякай канкрэтыкі няма, Ганну Шарэйку на Віцебшчыне лічаць хутчэй ахвярай «разборак» у вышэйшых колах, чымсьці злачынцай-карупцыянэркай.

**www.svaboda.org/content/article/26543028.html**

СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА

*пачатак на стар. 3*

сельскай гаспадарцы ўжо тымі сіламі, якія сёння ёсць. Маса тэхнікі, людзі хочуць працаваць - працуйце! Таму што асноўныя сродкі дзяржава павінна будзе накіраваць на мерапрыемствы і праграмы, за якія яно, перш за ўсё, адказвае: дарогі, зямлі, меліярацыя і г.д. Гэта галоўнае для дзяржавы.

Далей цягнуць на плячах сельскагаспадарчую вытворчасць - не гонар. Трэба, каб сяляне самі зараблялі ... Гэта не значыць, што мы кагосьці не падтрымаем. Калі трэба, калі мы бачым перспектыву, што, уклаўшы рубель, заўтра будзе аддача - мы ўкладзем ... Таму што ісці агульным фронтам, як рабілі, не трэба. Ужо з'явілася шмат нахлебнікам, якія сядзяць і думаюць: дадуць. Нічога ніхто не дасць.

Ён дадаў, што "будучы год павінен стаць пераломным па працы з зямлёй».

**Чэрвень, 2014**

Дзяржава будзе падтрымліваць толькі паспяховых сельгасвытворцаў. Аднак атрыманыя пазыкі трэба будзе вярнуць не пазней чым праз восем гадоў, заявіў Лукашэнка, наведваючы сельгаспрадпрыемства Чачэрскага раёна.

- Мы будзем даваць грошы толькі тым, хто зможа іх вярнуць, - падкрэсліў ён. - Таму астатнім, тым, хто лайдачыць і не можа нармальна працаваць па іншых прычынах, трэба ўжо думаць пра тое, як працаваць нармальна, каб выжыць. Гэта ўжо не тыя часы, калі ў нас хлеба ня хапала і соль заканчвалася.

**Сакавік, 2013**

Лукашэнка прызнаў, што толькі траціна сельскагаспадарчых арганізацый працуюць добра. Разам з тым ён заўважыў, што ў сельскай гаспадарцы яшчэ маса рэзерваў:

- І галоўнае - гэта кадры - кіраўнікі, спецыялісты, сяляне. Там, дзе ёсць жаданне працаваць, дзе нацэлены на працу, там ёсць вынік. Там, дзе няма нармальнага кіраўніцтва, спецыялістаў, там і людзі працуюць слаба. Ты ім колькі ні давай грошай, усё бескарысна.

**Кастрычнік, 2007**

- Хай гінуць! 13 гадоў іх на сваіх плячах носім. Хопіць ужо, - заявіў сёння Аляксандр Лукашэнка, кажучы аб адстаючых сельгаспрадпрыемствах падчас наведвання СВК «Гервяты» Гродзенскай вобласці.

Ён таксама адзначыў, што распарадзіўся з наступнага года скараціць на 50% дзяржаўныя датацыі для паспяховых сельгаспрадпрыемстваў, а адсталыя наогул пакінуць без падтрымкі.

- Гаспадаркі, якім мы дапамаглі, якія паднялі з каленяў, дзякуючы дзяржаўнай падтрымцы, павінны зарабляць самі.

Больш за тое, Лукашэнка падкрэсліў, што «яшчэ праз год, а менавіта ў 2009 годзе, добра працуе прадпрыемства наогул не павінны атрымліваць ніякіх дзяржаўных датацый».

**Лера Васількова**
**gazetaby.com/cont/art.php**

ДА ДНЯ ВЕДАЎ

# КОЛЬКІ ПАВІНЕН ЗАРАБЛЯЦЬ НАСТАЎНІК?

**Колькі дзён таму я ў роднай Гародні браў удзел у грамадскіх слуханнях, цыкл якіх распачаў па беларускіх гарадах “Народны рэферэндум”, ініцыяваны ў тым ліку і Рухам “За Свабоду”.**

Слуханні былі прысвечаныя рэформе ў галіне адукацыі – як зрабіць яе больш якаснай і пры гэтым даступнай? Пытанне надзвычай важнае, бо гэта будучыня нашых дзяцей і ўнукаў. Таму яно і ў парадку дня “Народнага рэферэндуму”.

Слуханні актуальныя яшчэ і таму, што неўзабаве будзе прынята новая рэдакцыя Кодэксу аб адукацыі. Грамадства мае магчымасць выказаць свае заўвагі. Зрэшты, маю і асабісты клопат-інтарэс - як учарашні выкладчык і сённяшні дзед.

Праблемы навідавоку - нізкая якасць адукацыі, што адлюстроўваецца ў выніках цэнтралізаванага тэставання, архаічнасць метадаў выкладання і зместу дысцыплін, заідэалагізаванасць, адсутнасць акадэмічных свабодаў і самакіравання ва ўніверсітэтах. Але ўказваць на праблемныя кропкі мала. Што рабіць?

У тэксце праекта Кодэксу аб адукацыі, як заўважыў падчас слуханняў прафесар Уладзімір Дунаеў, няма нават мінімальнага працэнта выдаткаў з бюджэта на адукацыю. У цывілізаваных краінах гэта недзе 10%.

Бясконцыя эксперыменты прывялі да таго, што адукацыя даведзена да ручкі, а прафесія настаўніка стала зусім не прэстыжнай. Пра што можна казаць, калі сёння ў педагагічныя ўніверсітэты на большасць факультэтаў залічваюць усіх, хто падае дакументы. А заўтра яны будуць вучыць нашых дзяцей.

Тое самае з данаборамі“двоечнікаў” на так званыя "востразапатрабаваныя эканомікай і сацыяльнай сферай спецыяльнасці".

Беларусь з'яўляецца адзінай краінай у Еўропе, якая не далучылася да Балонскага працэсу, што мае мэтай стварэнне адзінай Еўрапейскай прасторы вышэйшай адукацыі. Існуе вельмі вялікая праблема з прызнаннем нашых дыпломаў па-за межамі краіны. Выпускнік беларускага ўніверсітэта не мае тых магчымасцяў і перспектываў, якімі валодаюць студэнты ў суседніх краінах.

Кожны год расце колькасць студэнтаў, што атрымліваюць вышэйшую адукацыю на платнай аснове, і па некалькі разоў на год павялічваецца памер аплаты за навучанне.

Беларускія сем'і часта не могуць сабе дазволіць вучыць дзяцей за грошы. Мы прапануем стварыць Фонд будучых пакаленняў, які будзе напаўняцца, сярод іншага, з прыватызацыйных грошай. Гэты фонд стане асновай сістэмы "Дзіцячага капіталу".

У выніку навучальныя ўстановы будуць атрымліваць належныя грошы за сваю працу. А бацькі ў той самы час будуць гарантавана мець сродкі на навучанне дзяцей ад моманту іх нараджэння.

Але найперш мы павінны аднавіць прэстыж прафесіі педагога. Пазіцыя Руху “За Свабоду” што да рэформы ў сферы адукацыі выкладзена ў “Народнай праграме”. Напрыклад, што тычыцца немалаважнага матэрыяльнага боку: узровень аплаты працы настаўніка ў пачатковай і сярэдняй школе мусіць быць даведзены да памеру 120-130% ад сярэдняга заробку ў дадзенай мясцовасці.

**Аляксандр Мілінкевіч**
**Naviny.by**

СЯРЭДНЯЯ ЗАРПЛАТА

# УЛАДЫ РАСКАРМЛІВАЮЦЬ ІНФЛЯЦЫЮ

**Намінальная налічаная сярэднямесячная зарплата ў Беларусі ўсё павялічваецца і ўжо перасягнула мяжу ў 600 даляраў ЗША. Ці адчуе насельніцтва гэта павелічэнне або яго з'есць інфляцыя?**

Па дадзеных Мінпрацы, намінальная налічаная сярэднямесячная заработная плата ў Беларусі ў студзені-чэрвені 2014 па параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года павялічылася на 20,6% і дасягнула 5млн. 764,8 тысячы рублёў, у тым ліку ў чэрвені - 6 млн 198, 5 тыс. (610,6 долара ў эквіваленце). Рэальная ж заработная плата ў першай палове гэтага года да аналагічнага леташняга перыяду ўзрасла на 2,9%.

Намінальная налічаная сярэднямесячная заработная плата работнікаў бюджэтных арганізацый у студзені-чэрвені 2014 у параўнанні з студзенем-чэрвенем 2013 павялічылася на 20,7% і дасягнула 4 мільёнаў 292,5 тысячы рублёў, у тым ліку ў чэрвені 4 млн. 704,9 тыс . (463,5 даляра ЗША ў эквіваленце). З пачатку 2014 года, нагадаем, зарплата бюджэтнікаў павышалася двойчы ў сувязі з павелічэннем тарыфнай стаўкі першага разраду: з 1 красавіка - з 260 тысяч да 262 тысячы рублёў, з 1 мая - да 275 тысяч, або на 5,8% да 1 студзеня 2014 года.

Рост заробкаў, як адзначае эканамічны эксперт Ліберальнага клуба Антон Балточка, - «гэта купля сацыяльнага спакою». Ён звяртае ўвагу, што павялічваецца не толькі сярэднямесячная, але і медыянны заробак, памер якой па выніках студзеня-траўня быў менш сярэдняй на 20%: «Хай медыянны заробак прыкметна менш сярэдняй па краіне, але яго памер таксама вышэй за 500 даляраў, якія так доўга абяцаў нашаму народу ўрад ».

Розніца сярэдняй зарплаты ў студзені-чэрвені па відах эканамічнай дзейнасці склала 4,6 разы (дзейнасць, звязаная з вылічальнай тэхнікай, - 15 млн. 443,3 тыс., Прадастаўленне сацыяльных паслуг - 3 млн. 223,9 тыс.). Міжрэгіянальная дыферэнцыяцыя дасягае 1,53 разы (Мінск - 7 млн. 692,3 тыс., Брэсцкая вобласць - 5 млн. 13,8 тыс.).

Лыжка дзёгцю ў бочцы заробкаў

Аднак не ўсё так гладка, як малюецца афіцыйнай статыстыкай. Па-першае, гаворка ідзе аб павелічэнні намінальнай налічанай сярэднямесячнай зарплаты, гэта значыць, за вылікам падаткаў атрымліваецца прыкметна менш, чым 610,6 даляра ў эквіваленце. Ды і курс даляра працягвае браць усё новыя вышыні.

Па-другое, «для нармальнага росту эканомікі павышэнне зарплат павінна быць стабільным». Іншымі словамі, у эканоміцы павінны быць створаны ўмовы, якія спрыяюць ўстойліваму росту даходаў: «Дрэнна для эканомікі, калі памер заробкаў пасля перыяду прыкметнага росту рэзка падае ў доларавым эквіваленце, як у нас ужо было ў 2011 годзе, - падкрэслівае Антон Болточка. - Гэта стварае рызыкі, не спрые захаванню макраэканамічнай стабільнасці ».

Міжнародныя фінансавыя арганізацыі наогул рэкамендавалі беларускім уладам адмовіцца ад практыкі павышэння заробкаў у бягучым годзе. Кіраўнік місіі МВФ Дэвід Хофман на прэс-канферэнцыі 28 красавіка ў Мінску адзначыў, што гэта варта зрабіць для змякчэння «рызык неўпарадкаванай карэкціроўкі знешніх дысбалансаў» у эканамічнай палітыцы. «У прыватнасці, у мэтах стрымлівання ўнутранага попыту і скарачэння дысбалансаў мэтавае крэдытаванне неабходна скарачаць значна хутчэй, чым прадугледжваецца ў цяперашні час, і ня варта далей павышаць заработную плату ў бягучым годзе», - сказаў Хофман.

Відавочна, што і цяперашні рост заробкаў будзе ў значнай ступені з'едзены інфляцыяй. Так, з 1 верасня ў Беларусі праіндэксуюць некаторыя субсідуюцца тарыфы на жыллёва-камунальныя паслугі для насельніцтва - адразу на 9,8%, як паведаміў 12 жніўня дырэктар дэпартамента цэнавай палітыкі Міністэрства эканомікі Ігар Фамін. У далейшым тарыфы на жыллёва-камунальныя паслугі будуць расці і ў сувязі з планамі ліквідаваць да 2017 года перакрываванае субсідаванне, якое павінна прывесці да зніжэння нагрузкі на рэальны сектар эканомікі.

Немінуча павышэнне і іншых коштаў, упэўнены Антон Болточко: «Гэта метад звязвання плацежаздольнасці насельніцтва, які ўжываюць улады. Інфляцыя з'яўляецца ў нашым выпадку кампенсацыяй хуткага росту заробкаў, атрыманых насельніцтвам незаслужана. Як бы гэта непрыемна ні гучала, так яно і ёсць, калі ўлічваць нізкія тэмпы росту прадукцыйнасці працы і ВУП ».

Між тым, інфляцыя ўжо за сем месяцаў 2014 перавысіла прагноз, закладзены урадам на ўвесь год. За ліпень індэкс спажывецкіх цэн на тавары і паслугі склаў 111,1 адсотка да снежня 2013.. У Нацбанку яшчэ па вясне задумаліся аб пераглядзе гадавога прагнозу з 11 да 16-17%. І той факт, што ўдакладнены прагноз да гэтага часу не апублікаваны, падштурхоўвае да думкі: улады пакуль і самі не разумеюць, наколькі вялікія апэтыты ў інфляцыі. (скарочана)

**Алена Спасюк**
**“БЕЛАПАН”**

**Заснавальнік:** Салодкі Сяргей Аляксандравіч
**Рэдактар:** Шчамлёў Аляксандр Міхайлавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211262, Шумілінскі раён, п/а Амбросавічы.
Тэл. 3-73-74, маб. +375299870742.
Газета выдаецца з верасня 2000 г.

**Падпісана да друку 28.08.2014 у 21.20**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры дапамозе аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.